# ДУБРОЎСКІ
# Н А С Т Р О Й №87

ЛІСТАПАД 2005

**НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК ДУБРОВА ПАРЫЦКІ ПАВЕТ**

## ГІСТАРЫЧНАЯ ПЕРАМОГА НАД МАСКАЛЯМІ!
## НАШ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ВАЯВОДА ВЫЙГРАЎ У МАСКАЛЁЎ 9:7!

### ШАЙБА НАД «І»

Гэтага моманту чакала бадай, уся Беларусь. Напярэдадні масква ўрачыста справіла 392 ўгодкі выгнання нашага войска з іхняга Крамля.
Нацыя чакала, чым жа годна адкажуць Дразды на дзёрзкі выклік. І расплата не змусіла сябе чакаць. Нацыянальны ваявода паманіў да сябе славутых некалі расейска-савецкіх хакеістаў-каманда моладасьці нашай!- і прылюдна перашпокаў іх старых усіх з рахункам 9:7!.От так!Адным узмахам хакейнай дошчачкі мухі былі аддзеленыя ад катлет і стала ясна хто ёсьць ху.
Не, нездарма столькі часу бавіць на хакейнай пляцоўцы наш нацыянальны ваявода, праліваючы вёдры поту.Праз яшчэ якія-небудзь два-тры прэзідэнцкія тэрміны ён навучыцца цьвёрда як сьлед трымацца на каньках і тады, на зайздрасьць маскалям, не іхняя, а нашая мяжа будзе праходзіць па беразе Індыйскага акіяну.
Бо хто цьвёрда стаіць на каньках, той і ў чабатах дойдзе. Сапраўды, навошта было праганяць нашае войска ў 1613 годзе з Масквы? Не было б клопату з «інтэграцыяй.»

### ХОЧАШ ПАМАЛІЦЦА? ВАЗЬМІ ДАЗВОЛ АД ЛУКІ.

У свой час першы ў сьвеце фашыст Уладзімір Ульянаў-Ленін сказаў, што прыйшоўшы да ўлады, бальшавікі возьмуць кніжную справу пад свой пільны кантроль. То бок яны не дапусьцяць аніякага іншадумства, акрамя мысьляў пра іхнюю партыю і правадыроў.

Часы памяняліся, але фашызм у Беларусі астаўся.

Улетку гаўляйтэр Берасьцейскай вобласьці параўнаў Лукашэнку з богам, а калі той засумняваўся, сракаліз-гаўляйтэр лізнуў шчэ глыбей: «Вы нават большы за бога!» Дык вось гэты супербог-праваслаўны-атэіст зараз спраўна заціскае вернікаў хрысьціян.

Зачынена некалькі пратэстанцкіх цэркваў. Здаецца і бог аднолькавы, хрысьціянскі, але нешта не падабаюцца хрысьціяне ўладзе.

Каб адчыніць новую царкву трэба мець ажно дваццаць чалавек.
У свой час Хрысту было дастаткова двух прыхільнікаў, каб быць разам з імі. Камуністам хапала трох, каб стварыць сваю шайку. А вось супербог пачынае з дваццаці. На тое і супер!

У позьнекамуністычныя часы абібокі кагэбісты бессаромна вынюхвалі і ганяліся за хрысьціянамі, каб, Божа крый, не зьбіраліся чытаць Біблію.

Зараз робіцца практычна тое ж.

Вось як тады было.

Успамінае былы дырэктар школы Віктар Н.

«Я тады быў дырэктарам і камуністам.Пазванілі мне неяк дахаты «Прыходзь у нядзелю на дзяжурства ў райкам партыі.» Прыходжу.

Дзяжурылі мы ўтрох: я, начальнік КГБ і намесьнік старшыні райвыканкама.Сядзім, гамонім. Раптам зазваніў тэлефон, начальнік узяў слухаўку, паслухаў і падскочыў як пакусаны.» Давай, хадзем!» Мы пабеглі да «казла». Едзем. Ля дарогі стаіць мужык. «Казёл» прытармазіў, начальнік высунуўся, мужык нешта шапнуў яму і мы паехалі далей. Ля скрыжавання ізноў тармазнулі, цяпер ўжо начальніку нешта шапнула баба, што стаяла на пераходзе. /гл. с. №2/

Паехалі далей, заязджаем у двор,-тут новы даклад-начальнік выскоквае і бяжыць, мы за ім. Начальнік забягае ў пад”езд, урываецца ў кватэру. Мы сьледам. А ў кватэры мо чатыры пажылыя жанчыны і мужчына маладзейшы. Начальнік нешта закрычаў, а жанчыны перапалохана кажуць: «Мы ж нічога не робім, во паклікалі чалавека, каб Біблію пачытаў, бо самі кепска бачым.» Я стаяў, бы абпляваны, мне вельмі сорамна было.

Прыходжу я дадому і кажу жонцы.»Эх, любая, не ведаеш ты, пад якім каўпаком мы жывом!»

З таго часу колькі мяне ні клікалі дзяжурыць, не хадзіў я, бо сорамна было.» Дык ці ж не вяртаюцца тыя гнюсныя часы?

## ВЯЛІКІ СКАЧОК.

Беларуская вёска гадоў на сто адстае ад заходнееўрапейскай. Магільшчыкамі беларускага сялянства ёсьць бальшавікі і іхняя славутая калектывізацыя.

Стан з насельніцтвам робіцца крытычным. Відавочна, трэба нешта рабіць. І вось неасталінскі драпежны сатанінскі рэжым сутаргава схапіўся за чарговую хімеру: стварэнне ўзорных агравёсак, якія чамусьці празываюць «аграгарадкамі». Як гарадок не горад, так і аграгарадок- гэта няведама што.

Ад таго, што немаёмага бяспраўнага селяніна пераселіш у бетонную ці цагляную фанзу ён не стане суб”ектам гаспадарання.

Зараз у начальства новая забаўка: гульня ў «сацыяльныя стандарты». Павесяць ліхтар, які пагарыць пару тыдняў- от табе і вукананы стандрт.

Між тым не дэкарацыі патрэбны, а добрая аграрная рэформа ў інтарэсах сялянства, якое ўжо і сялянствам не назавеш. І чым далей цягацьмуць вёску па розных загадкавых РУП-ПУП, тым болей заблытанай стане праблема.

Няма сумнення,з аднаго боку вёску хочуць захаваць як крыніцу электаральнае быдла, а для гэтага патрэбен «калхоз», а з другога яе рыхтуюць да прыватызацыі ў чужыя ручкі, для гэтага трэба зьнішчыць астатняе карэннае насельніцтва, а разам з ім і магчымыя маёмасныя прэтэнзіі.

Таму і прыдуманы вялікі скачок з аграмястэчкамі.

Вялікі скачок у Кітаі скончыўся вялікім крахам.

Так і гэты скончыцца тым жа.

А сацыяльныя стандарты? Хай сьпярша ў Шацілках збудуюць грамадскія прыбіральні ў горадзе. А ў Дуброве-лазьню.

## «НА МЕСЦЫ КРОКАМ РУШ!»

Ёсьць такая спартыўна-вайсковая каманда, якая зазвычай папярэднічае камандзе ісьці наперад.

Але, здаецца, гэтая каманда сталася ці не асноўнай у Беларусі.

На мінулым «рэферэндуме», дзе беларускі узурпатар-дарэчы, ён ужо забраў свае словы назад і цяпер не хоча , каб яго называлі дыктатарам- што ж назавом узурпатарам- выпрошваў сабе «дазвол» на незаконны магчымы трэці тэрмін кіравання- шчыгіляў лозунгам «За стабільнась!» Ніхто чамусьці не цікавіўся, за стабільнась чаго заклікае напамаджаны і напарфумаваны шэф Беларусі.Хутней за ўсё гэта для бальшыні народу пусты гук, а шэф народу меў на ўвазе устойлівасьць свайго не турботнага кіравання.

От як выглядае стабільнасьць на справе.

За часы стабільна стабільнага кіравання цэны вырасьлі ў 670 разоў. Працягласьць жыцця чалавека стабільна самая кароткая ў Еўропе- каля 62 год.

Калі напрыканцы 80х гадоў розьніца ў душавым Валавым Нацыянальным Прадукце паміж Беларуссю і Ірландыяй- на той час самай беднай і бязрадаснай краінай Заходняй Еўропы была каля 16% на карысьць Ірландыі- (гэта не надта шмат)-то ў 2005 годзе між намі стабільная бездань:Ірландыя-31900 даляраў,Беларусь-6800, розьніца, як відаць, у 4 з паловаю разы, 450%! (У хакей трэба чашчэй пагульваць.)

Часта-часта мы чуем, што наша стабільная краіна шалёна разьвіваецца. Мо й так, але дзе нам гэта пабачыць, акрамя тэлевізара?

У рэчаіснасьці, азірнуўшыся навокал ды нашашэрыўшы вушы, можна пачуць шыпенне «Асадзі назад!» Дык ці пасьпяховы прэзідэнт Лукашэнка?

## ВЫПАДАК У ДУБРОВІ.

З пеньсіянэрам Васілём Д. здарылася няшчасьце.У нядаўняе сьлізоцце ён пасьлізнуўся, упаў і пераламаў костку нагі. З цяжкасьцю яго завезьлі ў лякарню ў Шацілкі.
Тамака лекары паглядзелі на былую сыравіну для сацыялізьму, пакумекалі і загадалі забраць старога дадому, не аказаўшы яму эфектыўнай дапамогі.(сацыяльны стандарт!!) Што рабіць з небясьпечна хворым чалавекам? Узяла дачка грошы, мо тысяч са сто і зноў павезла бацьку ў лякарню.От гэта быў іншы заезд. Бацьку ўзялі, прааперавалі і цяперака ён далечуецца дома.

Няма сумневу, што гэты стары па заклiку тэлевізара і сэрца галасавацьме за незаконнага кандыдата ў прэзідэнты Лукашэнку. Хоць ніхто іншы як каханчык постменапаўзальных старых баб шчыра і блудліва заявіў: наш народ гатовы плаціць за ўсё, і за медыцыну.

(Ад сябе дадамо: і за ўласную дурасьць таксама.)

Беларускі ўзурпатар грошай сабе сабраў, нават на шыкоўны «Боінг» хапіла. Ён і можа заплаціць. Гароўны мужык Васіль Д. заплаціць не змог. Не змогуць заплаціць і багата іншых старых. Ды і маладых.
Дык чаму гэта ў значнай меры зьнішчана сацыяльнае бясплатнае лячэнне, а ўзамен нічога ўцямнага не прапанавана? Таму што кіруюць намі прагныя лайдакі. Прашчэй за ўсё усе клопаты пра народ ускінуць на сам народ.
Але навошта тады дзяржава, якая абавязана! аказваць грамадзянам базавыя паслугі, але сама ад іх адмаўляецца? Ці не зарана гоніць нас узурпатар у капіталізьм, трымаючы на лейцах у сталінскай атхле?

Лягчэй за ўсё клясьці бяздушных лекараў.

Але ім таксама трэба карміць сем"і, жыць і спадзявацца.І яны маюць права на спадзяванне на лепшую долю згодна з сваёй адукацыяй і адказнасьцю.Нехрэн вечна дэмагагічна эксплуатаваць Гіпакратаву клятву.Ад яе не бывае болей бінтоў, лекаў,ды медычнага рыштунку.

Цяперашні гідкі стан медыцыны ўзьнік з лукашэнкаўскіх рэфор-маў.

То глядзі паперад і рашай, ці хопіць у цябе ў кашальку грошай на лекі? Ці па кішэні табе галасаванне за незаконнага кандыдата ў прэзідэнты трэйці раз. Наш дарагі прэзідэнт для багаценькіх, хоць і трашчыць, як сарока, пра бедных.
Для цябе ён можа стаць апошнім. Па фізічных прычынах.Галалёдзіца бывая кажын год.Не пасьлізьніся ў сакавіку.

## ПЕРАДАМ ДА НАРОДУ!

І раз- пораз, і час ад часу, і не рады ў гады, а як толькі ўзыйдзе зрання тэлевізар і разьвідняе тэледзень Шэф і Друг народу заклікае, бы той муэдзін з мінарэту, сваіх паштучных чыноўнікаў: »Вы ж глядзіце, мне, хлопцы, дбайце пра народ!».

Ужо сама фармулёўка заклiку паказвае прынамсі дзьве рэчы: а) што чыноўнікі анізвання не дбаюць пра давераны ім народ- і перманентная адсутнасьць грамадзкай лазьні ў Дуброве сьведчанне гэтаму), б) што народ не мае свабоды і не можа дбаць пра сябе сам. От таму і патрэбен лагодны пастух-начальнік, які падораны нам старшым дзяжурным у Беларусі.

Зірніце. Іёе ў Кабульшчыне чарнобыльская ўцякачка Ніна Сабадаш, жанчына з нялёгкім лёсам.І падарыў Бог ейнай дачцэ дачушку, а ёй- унучку.

От тут высьветлілася, што хата, у якой яны жывуць, малапрыдатная для маленькай грамадзянкі Беларусі.

Папрасіла сп. Сабадаш тамтэйшае начальства даць ейнай сям"і стандартную аднапакаёвую вольную кватэру, каб гадаваць дзіцё.І што ж? Не далі!

Здавалася б, на фоне статыстыкі сконаў і народзін у Кабульскім сельсавеце 40:4 варта толькі вітаць і радавацца новай жывой душы. Дык не ж! Не далі пустой кватэркі жанкам.

Раённая камісія падлічыла і тэмпературу сьцен і грубкі, і колькасьць дзьвух пенсій і шчэ нешта (лічыць чужое яны мацакі!) і сказала «не»

Шкода ім пустой кватэркі дзьвюм дарослым і адной маленечкай душы! Ай-яй!

Ды драўлянага ламачча пад назовам хаты цяперака па сёлах процьма. Жыць німа каму!

Таварышы з старчаковай вертыкалі! Паслухайце тэлевізар і нас, станьце перадам да сп. Сабадаш. Дайце дзіцяці жытло.

**«Я ужэ ўласцью наелся»**

Небагата людзей у Дуброві маюць цярплівасьць паслухаць Лукашэнку па тэлевізары да канца. Зазвычай, народ задавальняецца прапагандысцкім дайджыстам альбо анталогіяй, іначай хрэстаматыяй ці выбранымі месцамі з прамоваў.

Але, безумоўна, абшчыпаны цэнзурай-карэктурай выступ А.Р. 23.XI.05 перад расейскімі журналістамі-а гэтай арды было мо чалавек за сотню-паглядзець было цікава.

Лукашэнка добра вешаў ім смаркачы на вушы.І тое, што перад ім заробак у Беларусі быў 10-20 даляраў.(Насамрэч ад 40 да 60), і што ён адзін галасаваў супраць развалу савецкага саюзу (па праўдзе, то быў сакратар ЦК КПБ Валер Ціхіня).

Асабліва расчуліла сказаная ім фраза «я ўжэ ўласцью наелся.»

Яно то й відаць, што ад перакорму бляваць цягне. Толькі чаму так істэрычна паводзіць сябе перад выбарамі? Чаму такая мітусьня-мігценне? Рыгоравіч, як заўжды, накінуўся на здраднікаў Шушкевіча і Краўчука. Да нежне! Бо тыя не могуць яму адказаць перад тэлекамарамі. (Хай бы пазваў!)

Але пра Ельцына, што першым пачаў валіць СССР ні слова ні беднага. Знае сваё мейсца Лукашэнка!Не займае белавежскага зубра.Ведае, на каго льга рыкаць, на каго нельга.

Але мы напомнім, што дамова пра стварэнне СССР у 1922 годзе ніколі не была ратыфікавана Беларуссю,таму фармальна, дэ юрэ, Беларусь не была ў складзе СССР. Толькі выключна як акупаваная Расеяй тэрыторыя.Парадокс

**«У храме народ хочэт відзець прэзідзента»**

Самаробныя рэлігійныя перакананні-ці адсутнасьць наагул такіх-відаць з камічных, часам амаль блюзьнерскіх паганскіх прызнанняў А.Р. На пытанне пра рэлігію А.Р.сказаў, што па сьвятах ходзіць у храм,сьвечачку ставіць, што народ там хоча бачыць прэзідэнта (так!)Не да Бога народ цягнецца ў храм, а на моднага прэзідэнта! Яшчэ больш забаўным было выказванне наконт храма. Аказваецца, самая лепшая царква ў мітрапаліта, «там усё ёсьць». «Он памоліцца, а я паслушаю.» Цікава, у якасьці каго прыслуховаецца А.Р.? Як цэнзар малітваў? А мо як брэсцкі гаўляйтэр сказануў, -як супербог? (Дарэчы, відаць, што А.Р. бязбожнік, бо не моліцца.Чаму б не памаліцца разам з мітрапалітам за народ, за краіну, за мір, не папрасіць посьпеху і шчасьця народу? Вунь гнаныя ім пратэстанты не прамінаюць прасіць Бога і за народ і за мір і за беднага прэзідэнта.)

**У кажын калектар заткала.**

Аказваецца, неяк пад Новы год прарвала у Менску калектар.Дык Рыгоравіч крукам стаяў тры гадзіны над рамонтнікамі, пакуль тыя не прыладзілі. Ото наглядчык! Мо без яго

ім і гадзіны хапіла б. Ведама, як высокае начальства памагае. Ак паганыя кокі танцору.

Словам, раз уладаю наеўся, то трэйці заход на ўладу- выключна альтруістычны. Рыгораіч намаляваў расейскім журналістам жудасную карціну, што тут тварылася да яго без яго: апазіцыя хадзіла з нажамі, маскалі сядзелі на чамаданах і развучвалі лозунг «чамадан-вакзал-Расея». Першабытны хаос! Лагічна, што без яго ў Беларусі ізноў пачнецца кашмар.Ат, без аднаго жыда кірмаш будзе, кажуць у народзе. Ад выступу Лукашэнкі заўсёды маеш своеасаблівую асалоду. Гэта як ад гумарыста: ведаеш, што хлусіць,але сьмешна.

---

**КАЖЫН РАЗ ГЭТАЮ ПАРОЮ**

мы ўспамінаем загубленых сталінскімі сокаламі і чэкісцкім наганам беларускіх пісьменнікаў і паэтаў. Іх прыносілі ў ахвяру бальшавіцкім сьвятам і без сьвят. Разам 29 кастрычніка 1937 году было расстраляна за адну ноч 20 беларускіх паэтаў, пісьменнікаў, крытыкаў. Між іх было ладнага і жыдоў. Такога зьвярынага чэкісцкага подзьвігу не было да таго часу нідзе і ніколі.

Сёння ад палітычных рэпрэсій да палітычных забойстваў, як і тады, адлегласьць нулявая.

---

**Свабоду палітычным вязьням: Міколу Статкевічу, Паўлу Севярынцу, Валеру Леванеўскаму, Андрэю Клімаву, Міхаілу Марынічу.**

Трагічна пайшоў ад нас
**КУЗЬМЯНОК**
Міхаіл Аляксандраў.
Спачын ягонай душы.

Заўчасна пайшоў ад нас
на скруху бацькам,
брату, жонцы і сыну
**Мятлушка**
Анатоль Хведараў.
Хай яму зямля
будзе пухам.

---

Друкарня імя І. Масьціцкага
100 асобн. Як заўсёды.